№ 110 (692)
Субота, 19 чэрвеня 1999 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень
Кошт: у кіёсках і крамах — 20000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*
Якуб Колас










# Сусветна вядомаму майстру слова, слаўнаму сыну нашай Бацькаўшчыны, народнаму пісьменніку Беларусі Васілю Быкаву — 75!

*Генадзь БУРАЎКІН*

## ВЯЛІКІ

Сяргей Ясенін сказаў аднойчы, што вялікае бачыцца на адлегласці, што цяжка зблізку разгледзець нават знаёмы твар.

Паэты такога таленту і такой інтуіцыі, як Ясенін, звычайна не памыляюцца. Але мне здаецца, што вялікі разанец на гэты раз перабольшыў. У гісторыі народаў, у гісторыі літаратуры ёсць выдатныя постаці, сапраўдную маштабнасць якіх беспамылкова вызначалі ўжо сучаснікі. Геніяльнасць Пушкіна і пры жыцці была відавочнай не толькі для Дзяржавіна і Жукоўскага. Ужо ў маладыя гады нацыянальным прарокам назвалі Янку Купалу нашаніўскія адраджэнцы. Думаю, што сёння і мы маем усе падставы лічыць вялікім Васіля Быкава, чыю бліскучую прозу даўно прынялі ў шаноўную сусветную бібліятэку яго строгія калегі і чытачы.

Відаць, невыпадкова адным з самых сумленных і дасведчаных летапісцаў крывавага змагання з гітлераўскім фашызмам стаў зусім малады радавы ўдзельнік гэтай гістарычнай вайны, вясковы хлопец з пакутнай і нішчымнай Ушаччыны. Доўгімі гадамі і вёрстамі прайшоў, прапоўз, праехаў ён па пагорках і раўнінах, па друзе і попеле Украіны і Расіі, Румыніі і Венгрыі, Чэхіі і Германіі, глытаючы пыл і дым, хаваючы сяброў і наспех гоячы раны. Сціплы абеліск на Кіраваградчыне над братняю магілай, на якім высечана і прозвішча лейтэнанта Быкава, — унікальная, а можа быць, і самая высокая адзнака ягонай мужнасці і салдацкага самаахвяравання. На шчасце, ён застаўся жыць, вайна нібы спецыяльна захавала яго, каб ён паспеў расказаць усё, што ведаў пра герояў і здраднікаў, пра адвагу і палахлівасць, пра прыгожыя легенды і суровую рэальнасць. І мне нават не крыўдна, а проста смешна, калі атлусцелыя ад штабных харчоў адстаўныя генералы, што ніяк не стамляюцца зычна камандаваць, патрабуюць сёння для Быкава ледзь не штрафнога батальёна. За што? За тое, што паказвае Вялікую Айчынную не такой, якой яны падалі яе ў сваіх рапартах вышэйшаму начальству? За тое, што не хоча аддаваць за Перамогу любую, нават непрымальную цану, бо ўласным лёсам і вопытам памятае, што вымяраецца яна не лічбамі і салютамі, а пакутамі, крывёю, калецтвамі і ўрэшце — жыццём, якое даецца чалавеку адно?.. Сівыя, стамлёныя ветэраны добра ведаюць, што ўсё, пра што апавядае Быкаў, было; праз усё гэта цярпліва і да канца прайшлі іх сябры і аднапалчане. Толькі вось піша ён не халодныя рэляцыі аб перамяшчэнні войскаў, не раўнадушныя справаздачы аб расходаванні боезапасу і не аналітычныя даведкі для кабінетных стратэгаў, а балючую споведзь салдацкай душы, трагічную аповесць пра людское жыццё ў нялюдскіх умовах вайны.

Жорсткая праўда і бясспрэчны талент — вось што адразу ж вызначыла беларускага пісьменніка сярод соцень творцаў. У першых сваіх аповесцях "Жураўліны крык", "Трэцяя ракета", "Альпійская балада" ён быў рамантычна ўзнёслы, нават паэтычны, але (і хай гэта не здасца таму-сяму парадаксальным) сурова-праўдзівым і бязлітасна шчырым. Потым прыйшла проза больш стрыманая, "заземленая" і горкая — "Праклятая вышыня", "Яго батальён", "Мёртвым не баліць", "Сотнікаў"...

Васіля Быкава сустрэлі і прынялі з радасцю і захапленнем не толькі мільёны чытачоў, а і прызнаныя майстры мастацкага слова, правафланговыя "ваеннай тэмы" — Аляксандр Твардоўскі і Канстанцін Сіманаў, Алесь Ганчар і Віктар Някрасаў, Рыгор Бакланаў і Віктар Астаф'еў, Юрый Бондараў і Вячаслаў Кандрацьеў... Яго слова шырока пайшло па свеце — аповесці Быкава пераклалі на дзесяткі моў, аб ім пачалі пісаць у самых папулярных газетах Францыі і Германіі, Італіі і Польшчы, Югаславіі і Швецыі... Відавочны, бясспрэчны трыумф, "яшчэ адна бліскучая перамога савецкай літаратуры", як павінны былі б засведчыць афіцыйныя крытыкі. Але... З незразумелай апантанасцю і ярасцю на творы Быкава накінуліся маршалы і генералы, партработнікі і журналісты, зайздроснікі і падпявалы. "Акопная праўда", "недаацэнка вялікай Перамогі", "непатрэбнае акцэнтаванне на трагічным", "дэгераізацыя" — Божа мой, колькі подлага і абразлівага давялося прачытаць і выслухаць Васілю Уладзіміравічу ў не такія і далёкія 60—80-я гады! Выстаяў. Не зламаўся. Не адступіў ні на крок. І ўпарта і мэтанакіравана ішоў наперад, да новых сваіх вышынь.

"Знак бяды" я і сёння лічу залатой класікай роднай літаратуры, творам, дзе надзіва натуральна, псіхалагічна шматгранна і дакладна выпісаны нацыянальны характар беларуса. Вобразы Сцепаніды і Петрака — гэта, па-мойму, дасканалы мастацкі помнік нашым вясковым жанчынам і мужыкам, не плакатным, не выдуманым, а вельмі жывым і зямным, з усімі іх вартасцямі і слабасцямі, працавітым, добрым, хітраватым і наіўным, палахлівым і нязломным. Як яны не падобны адзін да аднаго і якія ж яны адзіныя, свае, родныя!..

У гэтым выдатным творы, можа быць, упершыню Быкаў усур'ёз выйшаў за межы звыклай для яго тэмы, закрануўшы адну з самых балючых і слаба даследаваных старонак нашай перадваеннай гісторыі — калектывізацыю і рэпрэсіі. На шчасце, часы ў краіне былі ўжо такія, што, хоць і злосна зморшчыўшыся, ахоўнікі палітычнай цнатлівасці праглынулі горкую "пілюлю" і зрабілі выгляд, што і яны за аб'ектыўны паказ мінулага. "Знак бяды" быў ушанаваны Ленінскай прэміяй.

Сёння неўгамонныя адстаўныя генералы, якім усё яшчэ сняцца пракураныя сталінскія вусы і запацелыя суслаўскія акуляры, у сваім праведным парыве бальшавіцкага гневу і лютай нянавісці да "здраднікаў" сацыялізму на поўным сур'ёзе, у перадачах дзяржаўнага радыё, патрабуюць забраць у Быкава і медаль лаўрэата галоўнай савецкай літаратурнай прэміі, і залатую зорку Героя Сацыялістычнай Працы, і званне народнага пісьменніка Беларусі. Выхаваныя на статуце гарнізоннай службы і на бяздумнай падначаленасці Галоўнакамандуючаму, яны чамусьці лічаць, што іхні "трыбунал" быццам бы мае хоць нейкае значэнне для выдатнага таленту і ягоных прыхільнікаў. Дзіўныя, наіўныя здані мінулага, яны ўсё не могуць зразумець, што не медалі і значкі ўзнімаюць аўтарытэт Быкава, а якраз імя Быкава ўзнімае і захоўвае аўтарытэт гэтых узнагарод. Парадны мундзір, без якога яны імгненна робяцца непрыкметнымі і слабымі, не патрэбен пісьменніку, якога назвалі сумленнем народа...



Васіль Быкаў з гадамі сталеў і мудрэў не толькі як пісьменнік, але і як грамадзянін. У радасныя і сумятлівыя дні ўстанаўлення суверэннай, незалежнай Беларусі ён стаў адным з самых тэмпераментных і актыўных публіцыстаў, не зважаючы на старыя раны і новыя хваробы, разам з маладымі патрыётамі рашуча ступіў у шэрагі шматтысячных дэманстрацый за волю і справядлівасць. Для многіх гэта быў нязвыклы Быкаў — і на самых верхніх прыступках улады залямантавалі: "Не трэба дапускаць яго ў палітыку! Хай піша свае аповесці! Яго месца — за пісьмовым сталом!" Як быццам для дзяржаўнага лёсу народа творца, шчодра адораны Богам, не здольны зрабіць куды больш і лепш, чым нядаўнія шараговыя лектары таварыства "Веды" ці крыклівыя загадчыкі жывёлагадоўчых комплексаў. Не асабістыя амбіцыі, не прыхамаць стамлёнага славай чалавека, а святы абавязак перад Радзімаю, трывога за яе заўтрашні дзень паклікалі Васіля Быкава ў авангард змагання за дэмакратыю і нацыянальнае адраджэнне.

Маланка, як правіла, б'е ў самыя высокія дрэвы — і на сівую галаву Быкава абрынуліся неверагодныя абвінавачанні замшэлых кансерватараў, непрыстойныя паклёпы і знявагі бессмяротных ідэалагічных камісараў. Прыблудныя чыноўнікі нават адмовілі яму ў выданні новых кніг — і зборнік "Сцяна" (нячасты для ўсяго свету выпадак!) выйшаў на сабраныя людзьмі грошы... Але і зноў Васіль Быкаў не зламаўся, не пахіснуўся ў сваёй веры, не кінуў камень у свой народ. Ён напісаў цэлы том выдатных, мудрых прыпавесцяў, у якіх — і згадкі даўняй гісторыі, і горкі роздум над трудным днём сённяшнім, і трывожнае папярэджанне наступнікам. Сумна толькі, што большасць з іх стварыў ён не ў Мінску, а ў далёкім паўночным Хельсінкі, куды запрасілі яго ўдзячныя фінскія сябры, дзе забяспечылі яму цывілізаваныя ўмовы для спакойнай працы і куды толькі зрэдку і са спазненнем далятае базарнае скавытанне раз'юшаных "сабораў" і "набатаў". Калі б бацькі нашай дзяржавы замест бясконцых інтэграцыйных праектаў часцей чыталі быкаўскія прытчы, можа б, менеў глупстваў гаварылі і рабілі яны, можа б, сорамна стала ім за бессаромны гандаль суверэнітэтам і людскім даверам. Але, як пісаў В.Быкаў пятнаццаць год назад, "так ужо заведзена на белым свеце, што да сапраўдных апосталаў дабра і справядлівасці лёс заўсёды ставіцца няўдзячна: перш іх распінае, каб потым узвысіць..." І трошкі пазней ён самотна зазначыў: "Часы наступаюць далёка не райскія — горкія і цяжкія часы. Барацьба будзе зацятай. За хлеб, за гонар і праўду — для сябе і нашага цярпліўца-народа..."

Так, дарагі Васіль Уладзіміравіч, і часы ў нас цяжкія, і апосталаў сваіх мы не надта цэнім і ведаем. Можа, такі наш лёс, а, можа, Боскае пакаранне за нацыянальны нігілізм, за абразліва кволае пачуццё годнасці, за залішнюю цярплівасць і паслухмянасць... Дык жывіце ж доўга, працуйце нястомна, каб мільёнам суачыннікаў адкрылася нарэшце тое, што добра відно Вам з вышыні Вашага генія, дзеля чаго Вы годна прайшлі і крывавыя салдацкія шляхі, і бязлітасную грамадзянскую Галгофу! Вы вельмі патрэбны нам. За зробленае і адваяванае Вамі гісторыя і нашчадкі, магчыма, даруюць усе тыя трагічныя памылкі і глупствы, якія нарабілі мы ў апошнія гады.

Здароўя і плёну Вам, вялікі пісьменнік, вялікі беларус, вялікі грамадзянін — слаўны наш Васіль Быкаў!

* * *

**Рэдакцыя "Народнай волі" і яе чытачы шчыра і сардэчна віншуюць вялікага Грамадзяніна, Патрыёта і Творцу з юбілеем, зычаць яму добрага здароўя, нязгаснага пісьменніцкага запалу і хуткай сустрэчы на роднай зямлі!**

**Мы з Вамі, дарагі Васіль Уладзіміравіч!**

**Фота Яўгена КОКТЫША.**

## Грузавому транспарту сказалі "Стоп". Да 22 гадзін

Загадам Камітэта па аўтамабільных дарогах у Беларусі на летні перыяд — у чэрвені—жніўні 1999 года — уведзены абмежаванні руху транспартных сродкаў з нагрузкай на вось больш за 6 тон па аўтамабільных дарогах з асфальта-бетонным пакрыццём у дзённы час сутак з 10.00 да 22.00 гадзін пры тэмпературы паветра звыш 25 градусаў. Рух указаных транспартных сродкаў дазволены ў начны час — з 22.00 вечара да 10.00 гадзін раніцы. Выключэнне зроблена толькі для транспартных сродкаў, што ажыццяўляюць перавозкі грузаў, якія хутка псуюцца, і перавозкі, звязаныя з прадухіленнем альбо ліквідацыяй надзвычайных сітуацый.

Як паведаміла прэс-служба Камітэта па аўтамабільных дарогах, дадзеныя захады прадпрыняты з мэтай спыніць разбурэнне пакрыццяў аўтамабільных дарог рэспубліканскага значэння. Камітэт даручыў дзяржпрадпрыемствам "Белаўтастрада" і "Белдарцэнтр" наладзіць штодзённыя патрульныя агляды дарог. За пашкоджанні дарог, выкліканыя руханнем транспартных сродкаў з парушэннем устаноўленых абмежаванняў, вінаватыя будуць прыцягвацца да адказнасці ў адпаведнасці з заканадаўствам.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Заявление
### о создании республиканского комитета "Свободу Чигирю и Беларуси"

18 января 1999 года Михаил Николаевич Чигирь дал согласие баллотироваться в президенты Республики Беларусь. Сбор подписей в его поддержку и ход избирательной кампании показали его популярность в различных слоях населения. 30 марта 1999 года Михаил Чигирь был арестован и уже почти три месяца содержится в следственном изоляторе МВД. Все надуманные обвинения против него рассыпаются одно за другим. И все очевидней становится истинная причина ареста и изоляции Михаила Чигиря — как политического оппонента нынешнему режиму. Власть предержащие боятся свободных и демократических выборов, боятся ответственности за свою политику, которая довела страну до разорения, народ до нищеты, которая несет опасность существованию белорусской нации, поставила под угрозу независимость и суверенитет Республики Беларусь.

Власти панически боятся любого проявления народного недовольства, особенно в преддверии 20 июля, когда истекает законный срок полномочий нынешнего президента.

В Беларуси массово нарушаются права человека, подавляются свобода слова и свобода волеизъявления, осуществляются политические преследования, появились политические заключенные. В нынешних условиях никто не застрахован в Беларуси от произвола властей, от сумы и от тюрьмы.

Михаил Чигирь в тюрьме. Но и Беларусь не на свободе. Они вместе за решеткой. Они узники режима. Их судьба и свобода зависят от нас с вами, от нашей порядочности, смелости и моральности. Борясь за свободу Чигиря, мы боремся за правду. Борясь за Беларусь, мы боремся за будущее наших детей.

Комитет "Свободу Чигирю и Беларуси" — это республиканская и международная общественная инициатива. Она зародилась как проявление человеческого неравнодушия и солидарности с политиком и человеком, бросившим вызов беззаконию и грубой силе, как надежда на перемены и процветание. Вместе с тем движение за освобождение Михаила Чигиря — это движение солидарности за честь, свободу и права каждого человека и всех граждан Беларуси.

Цель комитета — добиться освобождения М.Чигиря, А.Климова, В.Кудинова и других политзаключенных Беларуси, добиваться поиска и гласного расследования бесследно исчезнувших Юрия Захаренко и Тамары Винниковой, содействовать процессу демократизации страны. Сделать это можно, только объединив усилия, волю и возможности сотен тысяч людей. Наши союзники — честные люди, независимые масс-медиа, политические партии, правозащитные организации, правительства и парламенты демократических государств.

Мы обращаемся к гражданам Беларуси с призывом принять активное участие в создании отделений комитета "Свободу Чигирю и Беларуси" во всех регионах страны. Мы призываем партии и общественные организации поддержать деятельность комитета. Мы просим международное сообщество проявить солидарность с борьбой за освобождение политических заключенных Беларуси. Мы призываем всех людей, независимо от политических и идеологических пристрастий, гражданства и места жительства, поддержать начинания комитета "Свободу Чигирю и Беларуси".

За нашу и вашу свободу!

**АБРАМОВИЧ А., БЕЛЯЦКИЙ А., БОГДАНКЕВИЧ С., БОРОДАЧ В., БУРАВКИН Г., ВАНИНА Т., ВЛАСОВ А., ВОЛЧЕК О., ВОРОБЬЕВ Г., ГАВРУСЕВ Г., ГИЛЕВИЧ Н., ГЛОД В., ГОРЕЦКИЙ Р., ГРИБ М., ГРИБ И., ДАШУК В., ДОБРОВОЛЬСКИЙ А., ЖЕЗНИЦКИЙ И., КОРОЛЬ А., ЛЕБЕДЬКО А., ЛОБАНОВИЧ Е., ЛОБАЧЕВ И., МАРОЧКИН А., ПОГОНЯЙЛО Г., ПРОТЬКО Т., САВЕРЧЕНКО И., СИВЧИК В.,**

## Падпіска на "Народную волю" прадоўжана па 23 чэрвеня ўключна

**Дзякуй "Белпошце" і "Белсаюздруку" — падпіска прадоўжана па 23 чэрвеня ўключна.**

**Той, хто па нейкіх абставінах не паспеў аформіць падпіску на "Народную волю", адзіную штодзённую рэспубліканскую незалежную газету, можа зрабіць гэта ў бліжэйшыя дні.**

**Нагадваем: індэкс "Народнай волі" — 63222,**
**кошт: на месяц — 240.000 рублёў,**
**на квартал — 720.000.**

**Некаторыя прыхільнікі "Народнай волі" аформілі падпіску на ўсё другое паўгоддзе, але ў асобных раёнах паштовыя аддзяленні быццам маюць намер прапанаваць перааформіць падпіску з разлікам пакуль што толькі на III квартал.**

**Паведамляем: у рэдакцыі ёсць дамоўленасць з "Белпоштай" і "Белсаюздрукам", што для тых, хто падпісаўся на "Народную волю" на ўсё другое паўгоддзе, пераафармленне не патрабуецца.**

**Вы — з "Народнай воляй", "Народная воля" — з Вамі!**

### Надвор'е

19, 20 чэрвеня па краіне захаваецца пераменная воблачнасць. 19-га — месцамі па рэспубліцы, 20-га — у паўднёвых раёнах пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Вецер няўстойлівы, 3—7, пры навальніцах парывы да 15—20 м/с. Тэмпература паветра ўначы — +12...+17, удзень — +22...+27. Па паўднёвым усходзе да +30.

Пр. Фёклы, Іларыёна, Іоны.
К. Гервасія, Пратаса, Рамуальда.

75 гадоў з дня нараджэння (1924) В.У.Быкава, народнага пісьменніка Беларусі.

ЧЭРВЕНЬ
**19**
'99 СУБОТА

Усход 4.37
Захад 21.45
Даўж. дня 17.08
Перш. квадра 20 чэрвеня
Захад 1.57
Усход 12.33

Пр. Валеры, Фядота.
К. Богны, Флярэнтыны.

ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКАГА РАБОТНІКА

100 гадоў з дня нараджэння Ц.М.Сяргейчыка (1899—1977), беларускага акцёра, народнага артыста Беларусі.

ЧЭРВЕНЬ
**20**
'99 НЯДЗЕЛЯ

Усход 4.37
Захад 21.46
Даўж. дня 17.09
Перш. квадра 21.13
Захад 2.18
Усход 13.43

Пр. Васіля, Вісарыёна, Засімы, Канстанціна, Фёдара, Яфрэма.
К. Аліцыі, Марты, Алоіза.

135 гадоў з дня нараджэння А.К.Сержпутоўскага (1864—1940), беларускага этнографа і фалькларыста.

85 гадоў з дня нараджэння У.М.Говар-Бандарэнкі (1914—1988), беларускага акцёра.

ЧЭРВЕНЬ
**21**
'99 ПАНЯДЗЕЛАК

Усход 4.37
Захад 21.46
Даўж. дня 17.09
Перш. квадра 20 чэрвеня
Захад 2.34
Усход 14.51

**Эпидемия?**

## У наших детишек животики болят

*В Орше зафиксирован рост заболеваемости острыми кишечными инфекциями.*

Во вторник и среду в поликлиники Орши обратились 133 человека с жалобами на боли в животе. В основном это были дети школьного возраста.

У ребятни разболелись животы по очень простой причине. Кто-то купил клубнику и сразу же, не помыв, решил отведать первые ягоды. Кто-то, купаясь в водоеме, наглотался воды... Диагнозы, которые ставили врачи подросткам, были самые разные. В основном это острая кишечная инфекция и острая респираторная вирусная инфекция с кишечным синдромом. 26 человек были сразу госпитализированы.

Сейчас в Орше работают бригады врачей-эпидемиологов областного и Республиканского центра гигиены и эпидемиологии. В городе обследуется вся вода, которую потребляет население, вода в открытых водоемах, молоко, молочные продукты, мороженое. По словам главного санитарного врача республики Валерия Филонова, "угрожающих жизни случаев в Орше нет, ситуация там управляемая".

Что касается эпидситуации в стране, она, по словам Валерия Филонова, из-за стоящей жары несколько неспокойная. "Ежедневно мы проверяем все продукты питания, особенно — молочные, питьевую воду, воду открытых водоемов, проверяем овощи и фрукты, которые выращиваются в Беларуси и которые завозятся из других регионов, — подчеркнул Валерий Петрович. — Но в такую жаркую погоду всегда есть опасность вспышки инфекционных заболеваний. Главное, чтобы каждый человек соблюдал элементарные правила личной гигиены: мыл руки перед едой, обязательно горячей водой мыл фрукты и овощи, не запасался скоропортящимися продуктами впрок".

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

## ЛДП першай прайшла перарэгістрацыю ў Мінюсце

Як стала вядома БелаПАН, першай беларускай партыяй, якая прайшла перарэгістрацыю ў Міністэрстве юстыцыі, стала Ліберальна-дэмакратычная партыя (ЛДП). Пасведчанне аб перарэгістрацыі пад нумарам "001" было ўручана лідэру ліберал-дэмакратаў Сяргею Гайдукевічу начальнікам упраўлення грамадскіх арганізацый і аб'яднанняў Мінюста Міхаілам Сухініным 16 чэрвеня. Нагадаем, што да 1 ліпеня гэтую працэдуру неабходна прайсці ўсім грамадскім арганізацыям краіны.

Паводле звестак БелаПАН, цяперашнім часам у Мінюсце на перарэгістрацыі знаходзяцца дакументы яшчэ васьмі палітычных партый, у тым ліку — Партыі камуністаў Беларускай, Камуністычнай партыі Беларусі, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускага народнага фронту і іншых.

Варта таксама адзначыць, што ў маі гэтага года некаторым палітычным партыям былі вынесены пісьмовыя папярэджанні Мінюста за актыўны ўдзел у прызначаных Вярхоўным Саветам прэзідэнцкіх выбарах. Сярод іх — АГП, БНФ, Беларуская нацыянальная партыя, Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя (Народная Грамада), Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада. Гэтыя папярэджанні могуць стаць для Рэспубліканскай камісіі па рэгістрацыі (перарэгістрацыі) грамадскіх аб'яднанняў падставай для адмаўлення ў іх перарэгістрацыі.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

